# ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ



Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква

ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217

Год 16/22 | Травень, 1994 г. | 1/33/43/


ВЯЛІКОДНАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ
АД ЯГО МІЛАСЬЦІ І З Я С Л А В А
БОЖАЙ ЛАСКАЙ
МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА
БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ



Хрыстос Васкрос!

Ізь Сьвятым Днём, што вялікш яго няма, бо ў ім сьцьвярджаецца Праўда нашае Веры, із Устаньнем з Умерлых нашага Збаўца Ісуса Хрыста, вітаю Вас Чэсьці Годнае Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі, Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да гэтае сваё Сьвятое Царквы ймкняцеся, а яшчэ доступу ня маеце.

Заклікаю ўсіх Вас з малітоўным уздымам сустрэць гэтае Сьвята над сьвятамі й жадаю, каб зваротам да Бога ачысьціўшы сэрцы, зь Ягонае Ласкі Вы дазналі цяперняй урачыстай пароюнезамучонае радасьці ды былі ёю, разам з усялякай памыснасьцяй, абдораныя кожны дзень у жыцьці.

А тым, што з насталых ім бедаў і няўдачаў сёньня яшчэ радасьці адчуць не патрапляюць, ды на палёгку ў жыцьці пэўнасьці ня маюць, наказваю не здавацца роспачы, а ў надзеі на нязводную Божую Міласьцівасьць знайсьці ўсьцеху сьвятняю пароюю.

Да ўсіх разам зьвяртаюся з напамінам не замыкацца й не адмяжоўвацца ад навакольнага сьвету ў загарадах асабовых, ці сямейных радасьцяў і посьпехаў, або боляў і стратаў, але, зачэрпаўшы з гэных Божых дабрадзействаў і дазнаньняў сілы, ды вытрываласьці, прысьвяціць сябе добрым справам.

Не йз самалюбнага бо асяту выгадаў і насыці раскошай, але зь любасьці да Бога, павагі да свайго Народу, добрае волі паміж людзьмі, дастатку Роднага Краю й пэўнасьці ягонае трывалае бясьпекі, родзіцца й патоля ў смутку, ды памыснасьць адзінкі вянчыцца радасьцяй.

Сёньня нашая Бацькаўшчына – Беларусь ніводнае з гэтых даброцяў ня знае й жыве пад пагрозай страты неўзабаве ўсялякае магчымасьці на іхняе асягненьне.

Сьвяткуючы Хрыстовае Ўстаньне з Умерлых нам было-б грэшна застацца абыякавымі да юдаўскіх паймкненьняў узноў прадаць наш Край на крыжовыя мукі няволі.

Таму зрабем, Любыя, гэты нязвычайны Дзень і днём пачатку нашых узмоцненых намаганьняў усялякімі магчымымі спосабамі памагчы нашым патрыётам узяць верх у сёлетніх выбарах у Беларускай Рэспубліцы, ды гэткім чынам захаваць незалежнасьць нашае маладое дзяржавы й забясьпечыць лепшую будучыню Беларускаму Народу, і кожнаму з нас, як ягонай частцы.

Ды ня толькі адным цяпер разам баранем свабоду нашага Роднага Краю, але й ахвярна прысьвяцем гэтай вялікай Справе ўсе нашыя магчымасьці й сілы на рэшту жыцьця.

Атрымалі бо мы нашае жыцьцё на даронай нам Богам Беларускай Зямлі й нарадзіліся зь Беларускага Народу не дарма, але, каб гэтую найдаражэйшую ў сьвеце Спадчыну ўзбагаціць і палепшыць, ды для наступных пакаленьняў на векі захаваць.

Захаваньне-ж, з Божай дапамогай, гэтае Спадчыны, праз ратунак незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны, будзе й зарукай узнаўленьня ў Ей Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, зь Якою вольны Беларускі Народ кожны Вялікдзень будзе радасна гукаць, што Хрыстос

Запраўды Васкрос!

\+ І з я с л а ў
Мітрапаліт і Першагерарх
Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

ХРЫСТОС ВАСКРОС!

## ВЯЛІКОДНЫЯ Й ЛЕТНІЯ АДПРАВЫ

Перад Вялікаднямі, на ўспамін урачыстае сустрэчы пры ўваходзе ў Ярузалім нашага Гаспадара Ісуса Хрыста, у Вербную нядзелю, 24-га красавіка г.г. /паводле новага стылю, як і ўсе даты ніжэй/ падчас Сьв. Літургіі, што пачнецца а 9.оо-й г. раніцы, будзе асьвячэньне вербаў.

Далей, у цярпенным тыдні, парадак адправаў вызначаны наступна:

Вялікі Чацьвер, 28-га красавіка г.г. – Успамін Хрыстовых Мукаў /12 Эвангельляў/ – пачатак а 6.оо-й г. увечар.

Вялікая Пятніца, 29-га красавіка г.г. – Вячорня й вынас плашчаніцы на ўспамін Хрыстовых Паховінаў – пачатак а 6.оо-й г. увечар.

Вялікая Сыбота, 30-га красавіка г.г. – Паўночніца – пачатак а г. 11.30 увечар.

ВЯЛІКДЗЕНЬ, нядзеля, 1-га травеня г.г. – Крыжны Ход і Зараньня, ды ўсьлед Сьв. Літургія – пачатак а г. 12-й уначы. Пасьля адправаў асьвячэньне пасхаў.

/Працяг на 2-й бач./

## ВЯЛІКОДНЫЯ Й ЛЕТНІЯ АДПРАВЫ

/Працяг з I-е бач./

Тамашовая нядзеля, 8-га травеня г.г. - пасьля Сьв. Літургіі паніхіда за супакой памерлых.

Радаўніца - аўторак, 10-га травеня г.г. - маленьне за спачылых на могільніку ў Іст Бранзвіку - пачатак а г. 10.30 раніцы.

Пасьля Радаўніцы важнейшыя сьвяты, што адзначаліся здаўна на нашай Бацькаўшчыне, наступныя:

Юр'е - пятніца, 6-га травеня.

Сьв. Кірылы Тураўскага - серада, 11-га травеня.

Зьяўленьне Йконы Божае Маці ў Жыраве - пятніца, 20-га травеня.

Мікола /веснавы/ - нядзеля, 22-га травеня.

Сьв. Еўфрасіньні Полацкае - нядзеля, 5-га чырвеня.

Ушэсьце - чацьвер, 9-га чырвеня.

СЁМУХА - нядзеля, 19-га чырвеня.

У панядзелак, 27-га чырвеня, пачатак посту, што трывае да дня памяці Сьв. Апосталаў Пётры й Паўла, у аўторак, 12-га ліпеня.

Нядзеля 2-я пасьля Сёмухі, 3-га ліпеня г.г. - Чэсьць Памяці СЬВЯТЫХ БЕЛАРУСКАЕ ЗЯМЛІ ДЫ СЬВЯТА АЎТАКЕФАЛІІ БЕЛАРУСКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ.

Яна /Нараджэньне Ўпярэдніка й Гаспадаровага Хрысьціцеля Яна/ - чацьвер, 7-га ліпеня.

Панядзелак, 15-га жніваня - пачатак Усьпенскага посту.

Спаса - пятніца, 19-га жніваня.

Усьпеньне - нядзеля, 28-га жніваня.

Апрача пададзеных вышэй царкоўных ды агульна ведамых амэрыканскіх і беларускіх дзяржаўных сьвятаў, што прыпадаюць на веснавую й летнюю пару, заслугоўваюць увагі й паводле звычаю адзначаныя ў ЗША даты, а гэта:

Маці́н Дзень - нядзеля, 8-га травеня.

Бацькаў Дзень - нядзеля, 19-га чырвеня.

Сьв. Літургія ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пачынаецца кожнае нядзелі а 9.00-й г. раніцы.

Адправы ў сьвяты, што прыпадаюць у тыдні, а таксама дадатковыя адправы ў нядзелі, ці зьмены ў іх, абвяшчаюцца загадзя з амвону ў царкве.

## З ЖЫЦЬЦЯ БАПЦ

### ПАДЗЯКА ПРЭЗЫДЭНТУ КЛІНТАНУ

15-га студзеня 1994-га г. Прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан із ягонай жонкай наведаў сталіцу Беларусі Менск.

З гэтае прычыны Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў выслаў Прэзыдэнту пісьмовую падзяку за ягоную візыту, у якой адзначыў вагу гэтае падзеі ў станаўленьні беларускае дзяржаўнасьці.

Уладыка таксама выказаў удзячнасьць сп-ні Клінтан за ейную ўважлівасьць і спагаднасьць да пацярпелых ад чарнобыльскае бяды беларускіх дзяцей.

У лісьце з падзякай Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў яшчэ коратка закрануў цяжкасьці, якія перажывае Беларускі народ у здабыцьці й захаваньні ягонае дзяржаўнае незалежнасьці, і заклікаў Прэзыдэнта, спрыяльнымі, але й разважнымі палітычнымі, ды эканамічнымі крокамі амэрыканскага ўраду, усломненыя нацыянальныя ймкненьні падтрымоўваць.

У пачатку лютага г.г. Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў атрымаў зь Белага Дому за подпісам Прэзыдэнта Клінтана вельмі ветлівы й прыемны адказ.

З нагоды наведаньня Прэзыдэнтам Клінтанам Беларусі Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў выслаў таксама падзякі за іхнюю прычыннасьць да гэтае справы штатнаму сакратару ЗША Уорэну Крыстафэру, адумысловаму /тады/ амбасадару ЗША да Хаўрусу Незалежных Дзяржаваў Стробу Талбату й амэрыканскаму амбасадару ў Менску Дэйвіду Сўорцу.

У лістох да гэтых выдатных амэрыканскіх палітыкаў, гэтак, як і ў лісьце да Прэзыдэнта, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў закрануў праблемы будаўніцтва Беларускае дзяржаўнасьці ды прасіў дапамогі ў адоленьні пачатных цяжкасьцяў у гэтым працэсе.

У другой палове лютага г.г. Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў атрымаў адказ і ад былога ўжо адумысловага амбасадара Строба Талбота.

У ягоным працяглым лісьце, прызначаны цяпер заступнікам штатнага сакратара, сп. Строб Талбот даў ягоны агляд візыты Прэзыдэнта Клінтана ў Менску ды прадставіў мэты амэрыканскае палітыкі ў дачыненьні да Рэспублікі Беларусь, і апісаў ужо зробленыя пачатныя крокі на шляху да іхняга асягненьня.

### УШАНУЙМА ПАМЯЦЬ А. ПРАТ. ЯНА ПЯКАРСКАГА

12-га студзеня 1993-га году адыйшоў у вечнае жыцьцё духоўны кіраўнік парахвіяў БАПЦ у Лёндане, Кэмбрыджы й Вулвэртоне, што ў Англіі а. прат. Ян Пякарскі.

Нябожчык быў ня толькі ахвярным апякуном ачоленых ім парахвіяў, але й умелым прадстаўніком БАПЦ перад герархамі, як краёвых, гэтак і эміграцыйных Цэркваў у Вялікай Брытаніі.

Перад усьвячэньнем у сьвятарства ў 1971-м годзе ён быў таксама й дзейным працаўніком на грамадзкай, і нацыянальнай ніве, ды не адыйшоў ад яе, узяўшы на сябе пастырскі крыж.

Нажаль, як на выкананьне пастырскіх абавязкаў, гэтак і на нацыянальную дзейнасьць даводзілася яму дакладацца собскім коштам, а цяжкая хвароба, што скараціла жыцьцё, забрала й ашчаднасьці з заработнае працы.

Пасьля сьмерці а. прат. Яна Пякарскага, ягоная ўдава й дзеці апынуліся ў цяжкім матэрыяльным становішчы й ня могуць знайсьці сродкаў, каб паставіць на ягонай магіле помнік.

Памятаючы й высака ацэньваючы сьвятарскую й нацыянальна-грамадзкую дзейнасьць нябожчыка, вернікі БАПЦ і ўся беларуская эміграцыя павінны адгукнуцца на гэтую патрэбу, ды далажыцца шчодрымі ахвярамі да ўшанаваньня памяці гэтага адданага Богу й Беларускай Справе працаўніка пабудовай помніка на ягонай магіле.

У ЗША збор грошай на гэтую мэту вядзе Кансысторыя БАПЦ, на адрыс якое: BAOC Consistory 401 Atlantic Avenue, Brooklyn, N.Y. 11217 і трэба перасылаць ахвяры, зазначаючы іхнюю мэту.

У іншых краінах ахвяры можна даваць праз Рады мясцовых парахвіяў БАПЦ, або непасрэдна высылаць удаве на адрыс: Mrs. A. Piekarski, 7, Haycroft Road, Stevenage, Herts SGI 3JL England

### "ГОЛАС ЦАРКВЫ"

Рэлігійна-грамадзкі часапіс праваслаўных беларусаў "Голас Царквы", што яго выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ужо шмат год быў складаны на кампютарным уладжаньні прыналежным дру. Расьціславу Гарошку й зь ягонай дзейнай дапамогай, за што яму вялікая падзяка.

Нажаль, дзеля нечаканага й працяглага занядужаньня дра. Р. Гарошка ўвосень мінулага году, выдаць Калядні нумар "Голасу Царквы" за 1993-ці год ня было магчыма.

Таксама й Вялікодны нумар "Голасу Царквы" за 1994-ты год давялося адлажыць.

Наступны нумар часапісу, дзякуючы папраўе, з Божае Ласкі, здароўя дра. Р. Гарошка, цяпер

складаецца й ягонае выданьне мяркуецца на пару Сёмухі й нядзелі Сьвятых Беларускае Зямлі, ды Сьвята Аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы.

## ЗБОР ДАКУМАНТАЎ БАПЦ

У Кансысторыі БАПЦ можна, пасьля адправаў у Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў нядзелі й сьвяточныя дні, купіць, або поштаю выпісаць выдадзеную а. ппрсв. А. Кулакоўскім у 1983-м годзе ў Мэльбурне, што ў Аўстраліі, кнігу на 160 бачынаў: "Збор дакумэнтаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы".

У кнізе зьмешчаныя фотакопіі дакумэнтаў, што знайходзіліся ў канцылярыі сьв.пам. Архіяпіскапа Сергія, і якія датычаць гісторыі БАПЦ у эміграцыі ад Ейнага ўзнаўленьня, аж у 1960-я гады.

Кніга неабходная для гісторыкаў БАПЦ, беларускае эміграцыі, ды нават і Беларусі, а таксама карысная ўсім вернікам БАПЦ, каб тым, што былі сьветкамі асьветляных на ейных бачынах фактаў, адсьвяжыць іх у памяці, а тым, што ня былі, пазнаёміцца зь імі зь першакрыніцаў.

Выпісваць поштай можна прысылаючы чэк на адрыс: BAOC Consistory, 401 Atlantic Avenue, Brooklyn, N.Y. 11217

Цана кнігі ў ЗША - 6.оо даляраў зь перасылкай.

## З ПАРАХВІЯЛЬНАГА ЖЫЦЬЦЯ

### ЗАПУСКІ

У мясадазвольную нядзелю, 6-га сакавіка г. г., пасьля Сьв. Літургіі Парахвіяльнае Сястрыцтва Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне зладзіла ў парахвіяльнай залі пачастунак з нагоды скаромных запускаў.

Пасьля дужа сьцюдзённае й нябывала сьнежнае, ды галалёднае зімы, цягам якое няраз было немагчыма даехаць сьвятам у царкву, у гэты дзень урэшт зыйшоўся большы лік парахвіянаў, каб узмацаваўшыся духова на Сь. Адправе, падмацавацца пасьля яе, паводле нашага даўняга звычаю, і традыцыйнымі стравамі ды правесьці крыху часу ў лепшым настроі сярод блізкое сабе грамады.

Гэты добры настрой быў, нажаль, значна ўстурбаваны трывожнымі весткамі аб навараце бясправаўнае ўлады даўняга савецкага апарату ў Беларусі, аб чым пагутарыўшы прысутныя выказалі навагу заступіцца праз БАПЦаркву за даведзеную да небясьпекі страты незалежнасьці й магчымасьці паправы народнага дабрабыту Беларускую дзяржаву перад Амэрыканскім народам.

Усё-ж, агулам кажучы, бяседа прайшла ў бадзёрым і прыемным настроі, а на ейнае заканчэньне некаторым з прысутных пашчасьціла выграць карысныя падарункі на зладжанай сп. Мікалаям Войтэнкам лятарэі.

За падрыхтоўку багатага стала належыцца шчырая падзяка сп-ням Ганьне Войтэнка й Марыі Данілюк.

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25-ГА САКАВІКА

У нядзелю, 27-га сакавіка г.г., з нагоды 76-х угодкаў Абвешчаньня 25-га Сакавіка 1918-га году Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, пасьля Сьв. Літургіі Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў адправіў малебен за захаваньне сувэрэнітэту Беларусі.

Пасьля адправы ў парахвіяльнай залі, дзякуючы ласкавай працы сп-ні Аліны Лысюк, быў зладжаны сьвяточны пачастунак.

Падчас пачастунку на тэму сьвята й цяперніх цяжкасьцяў узнаўленьня незалежнае Беларускае дзяржаўнасьці прамаўлялі сп.сп. Уладзімер Курыла й Пётра Манькоўскі.

З узьнятымі прасьбамі за Родны Край на адправах і словамі прамоўцаў на ўрачыстасьці кастроям, пасьля архіпастырскага Багаўслаўленьня й адпяяньня разам нацыянальнага гімну, прысутныя разыйшліся, каб паводле іхніх магчымасьцяў далей дакладацца да ўмацаваньня й захаваньня свабоды Беларускага народу.

## ПАДЗЯКА

Парахвіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне выказвае шчырую падзяку за атрыманыя на выданьне "Царкоўнага Пасланца" ахвяры ад наступных асобаў: Ананімна - 23.оо дал., сп-ва Б. і М. Данілюкі - 50.оо дал., сп-ня Р. Галяк - 19.оо дал., сп. М. Грэбень - 20.оо дал., сп-ва Ю. і Б. Касьцюкевічы - 5.оо дал., сп-ва А. і А. Лысюкі - 10.оо дал.

Спадзяемся, што ў будучыні іхнім сьледам пойдзе яшчэ больш чытачоў "Царкоўнага Пасланца".

## ЗАСТУПАЙМАСЯ ЗА НАШ КРАЙ ГУРТАМ

Нядаўна рэдактар англамоўнага квартальніка "Belarusian Review" зьвярнуўся да падпішчыкаў з заклікам аплачваць дасыланьне гэтага карыснага выданьня дзеячам амэрыканскае палітыкі, навукі й культуры.

Гэткім чынам, паводле ягоных словаў, пачнем пасьпяхова, ужываючы ангельскага тэрміну, "lobby", або хадзіць у заходнім сьвеце за Беларускую справу.

Таму, што прапанаваны паважаным рэдактарам спосаб замасьціць гэтую прорву ў дзейнасьці беларускае эміграцыі, без дадатковых і можа больш яшчэ спорных учынаў, ня дасьць, на нашую думку, жаданых вынікаў, мы й наважылі закрануць гэтую пякучую патрэбу на бачынах "Царкоўнага Пасланца".

Вось-жа, не бяручыся гаварыць праз магчымасьці доступу да дзеячоў навукі, культуры й, трэба дадаць, эканомікі, з дазнаньня ўжо ведама, што адзіны спосаб, якім можна зьвярнуць увагу палітыкаў, апрача значнога дакладу да іхняе кар'еры грашмі й колькасьцяй выбаршчыкаў, гэта няспынныя кантактамі зь імі, як праз асабістыя сустрэчы, дык уперш і сьледам праз лістоўныя дамаганьні.

Што гэткія кантакты створацца зь ініцыятывы нашых паасобных эмігрантаў, без арганізацыйнага заахвочаньня й накіраваньня, як паказвае веда доўгіх год, дарма спадзявацца.

Нажаль, арганізацыйных, ці каардынацыйных крокаў да гэткае дзейнасьці з боку нашых ахвіцыйных згуртаваньняў не заўважваецца й не адчуваецца, дык і ў выніку уся справа стала зайняткам, парою службовага парадку, на пальцах аднае рукі зь лішкам зьлічаных людзей.

Горш яшчэ, аднак, што калі нешта выпадкова й робіцца, дык ізь сьляпое зайздрасьці й канкурэнцыі яно ці-раз больш нацэленае на недапушчэньне да высокіх парогаў палітычна недагодных ходаньнікаў, як на карысьць Беларускае Справы.

Найлепшым прыкладам гэткае неразумнае, а можа выявіцца нат і сьведамае нам шкоды, стала доўгагадовае намаганьне замарыць Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву ў ЗША моўкнасьцяй празь Ейнае йснаваньне й блякадай кантактаў усялякіх амэрыканскіх ды беларускіх дзейнікаў зь Ейным Першагерархам Я.М. Мітрапалітам Ізяславам.

Прыпамінаецца, як у 1974-м годзе, калі туркі, высадзіўшы войска, захапілі частку Кіпру, грэцкі архіяпіскап Якавас ужо на другі дзень

апынуўся ў Вашынгтоне, дзе абышоў з пратэстам усе ўплывовыя інстанцыі, зь Белым Домам улучна.

Гэта, аднак, быў не разовы выступ грэцкага архіпастыра ў вабароне інтарэсаў свайго народу, ані адно ягоны, а найбольш галосны прыклад няспыннае гэткае дзейнасьці ўсяго грэцкага япіскапату ў ЗША.

Ня трэба й казаць, што гэны япіскапат дастукаўся-б у мала якія дзьверы без падтрыманьня дзеячоў зарганізаванае грэцкае эміграцыі

Згадваючы патрыятычныя дзеі дастойнікаў Грэцкае Праваслаўнае Царквы, становіцца крыўдна, што ў памяці ніяк немага знайсьці сьледу, каб, гэтак мілы дзе-якім беларусам, архіяпіскап Якавас, ці, як на тое йдзе, іншы грэцкі япіскап калі, хоць адным словам, заступіўся за Беларусь.

Затое сьв.пам Уладыка Васіль, а пазьней, тады яшчэ япіскап Ізяслаў, чыталі ў Кангрэсе ЗША малітвы з нагоды 25-га Сакавіка й сустракаліся пасьля гэтага з выдатнымі кангрэсмэнамі й сэнатарамі.

Пры згодным падтрыманьні аўтарытэту сваіх архіпастыраў і з разумнай ім парадай, ды тэхнічнай дапамогай, гэтыя пачатныя кантакты можна было разьвіць у заступніцтва за Беларускі народ, голас якога быў-бы паважаны ў Вашынгтоне, а мажа й даходзіў-бы ў іншыя заходнія сталіцы.

Нажаль, як ведама, у нас знайшліся людзі, якія, як ня дзіўна, калі ўспомніць, зусім паводле трубнага голасу савецкае прапаганды, пачалі "вызваляць", быццам пакрыўджаных, вернікаў БАПЦ ад іхніх япіскапаў.

І вызвалялі, дзе паклёпам, дзе пагрозай, а дзе й сілай, ды ўсё цалялі, каб сьпінуць былога тады ў ЗША беларускага япіскапа, або не дапусьціць да ўсьвячэньня новага на гэтае месца, добра разумеючы, што гэтта толькі, а ня ў пазагуменьнях сусьветнае палітыкі, слова кіраўніка Беларускае Царквы перад дзяржаўнымі дзеячамі мажа мець вагу.

Раз за разам да нас звонку прыйходзілі, прыйманыя йз шчырым сэрцам, "запраўдныя" духаўнікі, якія з прафэсыйным умецтвам патраплялі ўраз зарганізаваць вокал сябе партыі, што ўчадзеўшы з намоваў, губялі від на шырокі гарызонт беларускіх царкоўных і нацыянальных інтарэсаў, ды з раптоўнай фанатычнай ненавісьцяй да зьверхнікаў Роднае Царквы, "ратавалі" ад гэтых, іхняе жыцьцё Богу й свайму Народу аддалых, цярпеньнікаў, запагрожаныя, быццам, паасобныя парахвіі.

Дзе тыя прыйшлыя "збаўнікі" ды што нам па іх засталося?!

У заражаным імі круцецстве, грэбаваньня адно вартыя, панадворкавыя палітыкі й грамадзкія дзеячы, ды іхнія някемныя пасьлядоўнікі, дакруціліся да таго, што забыўшыся, за руйнаваньнем Царквы, у пору ўзгадаваць сабе зьмену, сёньня, калі ці-аднаго зь іх трэба вадзіць пад руку, ня маюць каго выбраць на сваё месца.

Жахліва пацярпела ад спробаў зьнявечыць Яе й Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, ды, з Божае Ласкі, не загінула.

Памалу Яна пачынае ўзнаўляць працу на дзялянках Ейнае дзейнасьці, што, у пару ўстрымоўваньня варожае аблогі, не займелі дастатковае ўвагі, або й зусім ня былі кранутыя.

Аднэй з гэтых дзялянак, у ваблічны пагрозы йснаваньню незалежнае Беларускае дзяржавы, ёсьць якраз хаданьне, ці "lobbying" перад амэрыканскай уладавай структурай у вабароне інтарэсаў Народу, зь якога мы пайшлі.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква разумее, што гэтую адказную працу лягчэй і больш спорна было-б весьці паводле ўзгодненага пляну з грамадзкімі й палітычнымі эміграцыйнымі, ды краёвымі, згуртаваньнямі, да чаго іх гэтта горача заклікае.

Жадаючы ды ймкнучыся да супрацоўніцтва йз усімі людзьмі добрае волі, Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ня ставіць Ейную дзейнасьць у гэтай важнай справе ў залежнасьць ад стварэньня працоўнае супольнасьці зь іншымі, але гатовая, калі да ўмовы ня дойдзе, зайняцца й зоймецца ёю сама.

Калі-ж зьявяцца рэзультаты з асабовых дачыненьняў і лістоўных кантактаў, на іхняе ўмацаваньне спатрэбіцца, ці ў вадным выпадку, і высылка "Belarusian Review", з гутаркі праз мэтазгоднасьць якое й пачаўся гэты артыкул.

## БЕЗ СВАЙГО ДУХА МОВА ТОЛЬКІ ДЛЯ ВУХА

Сьпярша ўвосень мінулага году, а пазьней, колькі месяцаў счакаўшы, да нас дайшлі два выданьні падпарадкаваных Экзархату Маскоўскае Патрыярхіі ў Беларусі арганізацыяў, праз якія варта крыху пагутарыць.

Бартасьць на ўважнейшы агляд гэтыя выданьні заслугоўваюць зь дзьвёх прычынаў: першая - гэта тое, што іхнімі выдаўцамі ёсьць Беларускія Праваслаўныя Брацтвы, у якіх, як выглядае, пакуль-што гуртуюцца зацікаўленыя ў беларусізацыі Праваслаўнае Царквы ў нашым Краі сілы, а другая - гэта тое, што ў адрозьненьне ад іншае, друкаванае самым Экзархатам і зь ягонага дазволу, царкоўнага кірунку літаратуры, яны складзеныя цалком пабеларуску.

Перш атрыманае зь іх - пачатны нумар часапісу "Праваслаўе ў Беларусі і ў Сьвеце" не паказвае, як часта мае зьяўляцца, а вартае пажаданьня, каб на першым нумары ня спынілася.

Разам з гэтым, улічваючы нават абмежаваньні, якія сучасны стан праваслаўя ў Беларусі на выдаўцоў накладае, нельга змоўчаць і пажаданьня, каб часапіс лепшаў і сьпеў ягоным зьместам да ролі, якую мог-бы выконваць у адраджэньні нацыянальнае Царквы.

З мэтай паспрыяньня гэткаму росту й зробленыя гэтта ніжэй дзе-якія шчырыя заўвагі.

Першы позірк, як ведама, няраз настаўляе так, ці гэтак да чалавека, рэчы, або нейкае зьявы.

У дадзеным выпадку назоў часапісу адразу халодзіць ягонай афіцыёзнасьцяй ды адводнасьцяй ад мэты, якой, паводле прадмовы ад рэдакцыі, ён прысьвячаецца, а гэта Беларускаму Праваслаўю, што ўзятае за загаловак было-б бліжэй сэрцу кожнага праваслаўнага беларуса.

Далей, успомніўшы прадмову, у ёй кажацца праз імкненьне часапісу да ўздыму праваслаўнае й беларускае сьведамасьці, ды задзіненьня ўсіх праваслаўных беларусаў сьвету.

На асягненьне гэтых мэтаў рэдакцыя абяцае прыняць злажэньню беларускае багаведнае думкі, займацца нашай царкоўнай царкоўнай гісторыяй ды ставіць націск на ейны намер паставіць у цэнтры ўвагі парахвію, ці як яна кажа прыход.

Не адважыцца толькі яна, ці ня хоча прамовіць, што ўсе ейныя годныя імкненьні застануцца дарэмнымі лятуценьнямі нават у нацыянальнай, калі-б гэта здарылася, паводле мовы, ды імпэрыяльнай духам чужой юрысдыкцыі, а не ў сваёй, незалежнай ад вонкавых інтарэсаў, Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

Націск на асобнае, як-бы, існаваньне парахвіі, адчэпна ад нацыянальнага царкоўнага кіраўніцтва, выклікае й насьцярожаньне, ці ня выяў ён, знаёмае з парахвіяльных бунтаў у эміграцыі, тактыкі "дзяліць і валодаць".

Гэтае ўражаньне падмацоўвае й улучэньне ў рэдакцыйную калегію колькі асобаў зза акіяну

ў якасьці "прадстаўнікоў Беларускіх Праваслаўных Цэркваў замежжа".

Якасьць і разьмін з праўдай некаторых, зьмешчаных у часапісе, матэрыялаў ад успомненых людзей, выклікае вялікі сумнеў да іхняга права на гэткае адказнае званьне.

Прыкладам на гэта ёсьць перадрукаваны з кнігі "Дзейнасьць Кастуся Мерляка на Эміграцыі" артыкул, дзе кажацца, быццам, проста зь неўспадобы да іх, сьв.пам. Архіяпіскап Васіль прымусіў частку парахвіянаў Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адыйсьці й тым бедным, ды пакрыўджаным нічога не заставалася, як для практыкі іхняе пабожнасьці пабудаваць царкоўны будынак у Рычмонд Гіл, апісаўшы яго ўсьлед грэкам.

Даць веру ў тое, што які-колечы япіскап, у тым ліку й нябожчык Архіяпіскап Васіль, бяз дай прычыны й адно йз свае надумы можа выкінуць, не кажучы ўжо праз большую колькасьць, але й аднаго верніка, патрапіць хіба толькі той, хто верыць, што жыды з хрысьціянскай крывёю рашчыняюць мацу.

Ды аўтару й ня йдзе зусім праз выяўленьне праўды, бо ў такім выпадку ён мусеў-бы прызнацца, што было зусім наадварот - якраз тыя нацкаваныя, ня будзем даходзіць кім, парахвіяне выкідалі свайго раней паважанага япіскапа на вуліцу, сьветкаў чаго яшчэ даволі да сёньня засталося ў жывых.

Нажаль тыя сьветкі ня маюць грошай, каб апублікаваць нязманныя ўспаміны падзеяў, што ў той час адбыліся, а сп. К. Мярляк палічыў патрэбным і вартым выдатку, зганіўшы ці-аднаго добрага чалавека, спрабаваць, на 476-ці бачынах друку, паставіць перад баганом свае асобы сьвечку, ад якое, аднак, ня відно зіхаці.

Зьмяшчэньне няспраўджаных й, на здаровы розум, фантастычных абвінавачаньняў на бачынах часапісу, што дакляруе ягоную службу задзіненьню, не на месцы й выклікае, скажам яшчэ раз, дзіўваваньне з матываў на гэта.

Уся амаль рэшта зьместу, дзякуючы дбайнай падрыхтоўцы ды даючы спуст на тое, што ён друкуецца пад наглядам Экзархату Маскоўскае Патрыярхіі, чытаецца йз здавалéньнем і адзінае, чаго ў ім можа за шмат - гэта навуковасьці, замест патрэбнае сёньня даступнасьці звычайнаму чалавеку.

Гэткае даступнасьці, на нашую думку, дадало-б часапісу прыцягненьне да супрацоўніцтва празаікаў і паэтаў, а таксама й музыкаў, што побач з фактычнымі матэрыяламі для розуму, прамаўлялі-б прыгаством слова й гуку да людзкіх сэрцаў.

Няў-жо гэткіх у Беларусі няма?

Другое выданьне, што да нас дайшло - гэта "Беларускі Праваслаўны Калядар" на 1994-ты год, што таксама зьявілася дзякуючы працы й коштам, як ужо ўспомнена Праваслаўных Брацтваў у Беларусі.

У прадмове да каляндара кажацца, што ў выданьні адбіваюцца братчыцкія мэты "лучыць у сваёй дзейнасьці беларускую нацыянальную сваясаблівасьць і дабрадатную ды жыцьцятворчую праўду Праваслаўнай Веры".

Нажаль, нашае сваясаблівасьці ў каляндарнай частцы, добра з тэхнічнага боку надрукаванае кніжкі на звыш 100 бачынаў, апрача мовы, цяжка заўважыць.

Ашаломлівае ў ёй бо колькасьць расейскіх краёвых, мясцовых і нат засьценкавых сьвятых, за якімі выдаецца, што іншых хрысьціянскіх дагоднікаў Богу наагул нідзе й ніколі ня было

Успомненыя гэнам князі й княжны, вялікія й звычайныя, царэвічы, Маскоўскія мітрапаліты й патрыярхі, праўтнікі, дагоднікі, пустэльнікі й цярпеньнікі, паасобна ды згуртаваныя ў зборы /саборы/ паводле земляў, ці местаў, а таксама пазьбіраныя з найдаўнейшых часоў, аж да нядаўняе пары.

Пададзеныя на дадатак і дні імянінаў Патрыярха Маскоўскага й усяе Русі, ды ягонае інтранізацыі.

А вось Сабору Беларускіх Сьвятых, відаць, як меншым братом, прысьвечаная 3-я нядзеля пасьля Сёмухі, у другой чарзе за ўсімі сьвятымі зямлі Рускай /дасюль пісалася Расійскай/, прычыну сьвяткаваньня якіх у Беларусі можна вытлумачыць няйнакш, як адно палітычнымі меркаваньнямі.

Гэткім чынам абяцаны адбітак беларускіх сваясаблівасьцяў, за намогай прышчапіць вернасьць да Расеі, у першай частцы каляндара згледзець цяжка й таму даводзіцца спытацца, дзе гэттака сувязь з успомненай разам праўдай Праваслаўнае Веры?

Нельга абыйсьці моўчкі таксама й беларускае мовы, бо складальнікі каляндара карыстаюцца ёю ў прытарнаванай саўмінаўскай рэформай на прыладу этнацыду форме й з паслухмянасьці якой, за выйняткам Васіля, Мікалая, Піліпа й Кірылы, ад пачатку да канца падаюць імёны ў гэткім родным апісаньні, як Алексій, Георгій, Данііл, Іаан, Іосіф, Юльянія, Лідзія, Маісей, Яўгенія й г.д.

Зь нястачы месца абыйдзем гэтта частку каляндара, дзе надрукаваны кароткі катэхіз і пяройдзем на коратка да разьдзелу прысьвечанага Беларускім Праваслаўным Сьвятыням.

Пачнем із успаміну, што ў каляндарнай частцы кажацца 13-га лютага адзначаць памяць "Сабору навамучанікаў і іспаведнікаў Расійскіх: свц. Ціхана /1925/, свмч. Уладзіміра /1918/, свмч. Веніяміна...прмч.вял.кн. Елізаветы і інікіні Варвары /1918/", а вось дня згаду беларускіх навамучанікаў нідзе не паказана, бо Сынод Экзархату Маскоўскае Патрыярхіі ў Беларусі дасюль не паклапаціўся, ані іх наагул вызнаць, ані вызначыць калі ўшанаваць.

Адзіным выявам афіцыйнае ўвагі да гэтых цярпеньнікаў усё яшчэ застаецца зьдзеклівая й зусім нядаўняя рэгабілітацыя некаторых зь іх той самай уладай, што бязь віны зрабіла ім сьмяротны прысуд ды яго выканала.

Затое Сынод Экзархату летась сьпешна, як гэта паказана ў каляндары, прылічыў да ліку Беларускіх Сьвятых магілёўскага архіяпіскапа Георгія Каніскага /1717-1795/, што, нельга запярэчыць, ачольваў япархію ў цяжкі час, але ніякае шкоды сабе, апрача спалоху, не дазнаў, а наадварот, за заслугі перад Расейскай імпэрыяй быў шчодра ўзнагароджаны й скончыў жыцьцё ў выгадзе.

З гэтага відаць, што крытэрыям на сьвятасьць у Экзархаце Маскоўскае Патрыярхіі ў Беларусі ёсьць хутчэй асягненьні кандыдата ў пашырэньні й умацаваньні Расейскае імпэрыі, як ахвярнасьць у станаўленьні Беларускага Праваслаўя, ці Праваслаўя наагул.

Таму й надзеі нашых пабожных, а разам і патрыятычна настроеных людзей, супрацоўніцтвам з Экзархатам, гэны Экзархат беларусізаваць, або й абярнуць у нацыянальную Беларускую Праваслаўную Царкву, застануцца дарэмнымі.

Не абыйдзецца бо, каб падстаўляючы пад чужую страху свае сьцены, гэтая страха ня прыціснула таго, хто яе зачэпіць.

Дык пакуль Беларускія Праваслаўныя Брацтвы ў іхняй дзейнасьці й выданьнях не паставяць сабе за галоўную мэту ўзнаўленьне аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы ды ўстанаўленьне Беларускага Патрыярхату, датуль выдавецтва часапісаў і каляндароў на беларус-

кай мове застанецца разрыўкай для наіўных, на якую Маскоўскі Экзархат, бязь небясьпекі сабе, можа з ахвотай дазволіць.

Бо без свайго духа й мова толькі для вуха, а не на нашую справу.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Немагчымасьць утрыманьня сталае й платнае канцылярыі й вядзеньне справаводзтва прынагоднай працай ахвотнікаў, спрычыняецца да таго, што Кансысторыя БАПЦ і Парахвіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага няраз не спраўляюцца ў пору адказаць на атрыманыя лісты, або падзякаваць за прысланыя выданьні.

Перапрашаючы за гэтыя зацягласьці, Кансысторыя й Парахвіяльная Рада, з намерам неўзабаве адказаць, ці падзякаваць прастарней непасрэдна, зьмяшчаюць ніжэй кароткія водгукі на колькі прысланых лістоў, або выданьняў:

– Беларускаму Праваслаўнаму Брацтву Трох Віленскіх Мучанікаў у Менску:

Дужа дзякуем за Вашыя й іншыя выданьні, якія мы ўжо двойчы ад Вас атрымалі.

Водгук на некаторыя зь іх вы знойдзеце ў гэтым нумары "Царкоўнага Пасланца".

Мы былі ўсьцешыліся, пабачыўшы ўверсе на блянцы Вашага апошняга ліста радок "Беларуская Праваслаўная Царква", але ўзноў засмуцілі, калі пад назовам Брацтва пастарому згледзелі ўспамін "Беларускага Экзархата", хоць, праўда, ужо без дадатку "Рускай Праваслаўнай Царквы".

Мы ўважаем, што Вам ня варта гульнёю словамі прыхоўваць залежнасьць ад Маскоўскае Патрыярхіі, а трэба наважнымі дзеямі здабываць і асягнуць узнава аўтакефалію Праваслаўнае Царквы ў Беларусі.

Ад сэрца жадаем Вам Божага прыяньня на шляху да гэтае вялікае мэты!

– Брацтву Праваслаўнае Моладзі Беластоцка-Гданьскае Епархіі ў Беластоку:

Мы вельмі Вам удзячныя за рэгулярнае прысыланьне Вашага часапісу "Фос".

Жадаем Вашаму згуртаваньню буйнага росту, які яно бяз сумневу асягне, калі побач з рэлігійнымі паставіць перад сабою й беларускія нацыянальныя мэты.

– Рэдакцыі Газэты "Царкоўнае Слова" ў Жодзіне:

Дзякуем, што Вы адгукнуліся на дасланы Вам калядні нумар "Царкоўнага Пасланца".

Мы таксама спадзяемся, што лучнасьць паміж намі ўтрымаецца шляхам абмену нашымі выданьнямі, а можа й лістоўнай развагай над нашымі паглядамі набудучыню Праваслаўнае Царквы ў Беларусі.

Мы верым, што гэткім чынам мы зможам лепш зразумець стан рэлігійнага жыцьця ў Беларусі, а Вы, дасьць Бог, патрапіце дайсьці да наваґі зрабіць Вашую газэту запраўды беларускім царкоўным органам, як цалком паводле мовы, у якой ён выдаецца, гэтак і выявам духу нацыянальнае Царквы Беларускага Народу, безь якое немагчымая дзяржаўная незалежнасьць.

Шчыра Вам жадаем, з Божае Ласкі, посьпехаў у дарозе да гэтае мэты!

– Латвійскаму Таварыству Беларускае Культуры "Сьвітанак" у Рызе:

Шчыра дзякуем за добрыя пажаданьні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве на 1 -ты год.

Жадаем Вашаму Таварыству й усім беларусам у Латвіі спору ў працы на ніве беларускае культуры, а ўзвыш гэтага яшчэ й згуртаваньня ў беларускія царкоўныя грамады ды заступныя за Вашыя правы грамадзкія арганізацыі.

– Беларусам у Казахстане:

Мы радыя з Вашых лістоў і ўдзячныя за весткі, хоць, нажаль, зь нястачы рук не спраўляемся адказваць, за што просім выбачэньня.

На нашую думку Вам ня трэба сьпяшаць падавацца ў Расею, бо гэта завядзе Вас у пастку, зь якое ўжо ня здолееце вырвацца.

Нам здаецца, што беларусам у Казахстане трэба адасобіцца ад расейскае калянізатарскае масы ў свае царкоўныя грамады, а таксама стварыць грамадзкія арганізацыі дзеля абароны сваіх правоў перад урадам і здабыцьця зразуменьня, ды прыхільнасьці сярод мясцовага насельніцтва.

Казахстан, дзякуючы ягоным прыродным багацьцям, мае ўперадзе багатую будучыню, да будовы якое хоць і сьпешны далажыцца заможны капітал, але спатрэбяцца мазгі й рукі, апрача казахаў, яшчэ й эміґрантаў зь іншых краёў, калі гэтыя апошнія ня будуць пагрозай дзяржаўнай незалежнасьці.

Таму не распачайце, але, зьвярнуўшыся да Бога па апеку, арганізуйцеся й змагайцеся за сваю будучыню.

Мы ўпэўненыя, што з Божай дапамогай гэткім чынам Вы здабудзеце лепшае жыцьцё!

## ЗАКЛІК

Дарагія праз Хрыста Сёстры й Браты!

Ізь Сьвятым Вялікаднем вітаем Вас ад шчырага сэрца й жадаем, каб у гэты дзень нішто Вам не перашкодзіла дазнаць поўнае ўсьцехі з Хрыстовага Ўстаньня з Умерлых ды, каб цяпер і ўвесь час Вы даволіліся добрым здароўем, шчасьцем у собскім і сямейным жыцьці, побач з посьпяхамі ў намерах на будучыню.

Разам з гэтымі пажаданьнямі зьвяртаемся да Вас і з заклікам не забывацца ў жыцьцёвай памысьнасьці на вартасьці духовыя й патрэбы асяродзьдзяў, у якіх Вы жывяцё, або зь якіх пайшлі на сьвет.

У пору Хрыстовага Ўстаньня з Умерлых таксама й прырода на нашай Бацькаўшчыне расьцьвітае вяснавою красою, зь якое высьпявае летні ўраджай, ды сёлета няма гэнам радасьці ізь Сьвята, ані з ажылога прыгаства зямлі, бо добрых людзей прыгнятае трывога за будучыню сваю й Роднага Краю.

Сёньня стражы, што сьцераглі дамавіну, дзе была пахаваная Беларусь, узноў імкнуцца Яе, Божым дзівам вернутую да жыцьця, заваліць назаўсёды векам няволі.

Ня былі-б мы годныя звацца хрысьціянамі, ані вартыя Божае Ласкі, каб ня ўстрывожыліся гэтай навіслай над нашым Краям бядою ды не зрабілі ўсяго, што ў нашых магчымасьцях, каб яе адвярнуць.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ня толькі служыць вернікам духовай апекай, але й бескампрамісна змагаецца за незалежную Беларускую Дзяржаву, ды нацыянальную ў ёй Праваслаўную Царкву.

Цэнтрам гэтае духовае апекі вернікам й змаганьня за свабоду Роднага Краю ёсьць Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага, бяз існаваньня якога беларуская царкоўная й адраджэнская дзейнасьць зыйшла-б да хатніх пачынаў, ды зусім страціла-б ейную эфэктоўнасьць.

Таму, Дарагія, далажэцеся Вашымі шчодрымі ахвярамі да ўтрыманьня Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, чым зробіце дагодную Богу й карысную Беларускаму Народу справу, за якую ня міне Вас узнагарода на зямлі, ды ў небе!

Парахвіяльная Рада
Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага
ў Брукліне